**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.36, 17.12, 9.36;
Віцебск — 7.30, 16.58, 9.28;
Магілёў — 7.25, 17.01, 9.36;
Гомель — 7.19, 17.02, 9.43;
Гродна — 7.51, 17.28, 9.37;
Брэст — 7.47, 17.31, 9.45.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 11 лютага.

**ІМЯНІНЫ:**
Свяціцеляў Васіля, Рыгора, Івана; Еўлаліі, Мадэста.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

12 ЛЮТАГА 1992 г.
серада, № 30 (21808)




● цана 40 кап.

## РозГАЛАС

### ПАДЗЕІ МОГУЦЬ ПАЎТАРЫЦЦА

Памятаеце жудасную гісторыю, якая адбылася два гады назад 12 лютага ў сталіцы Таджыкістана Душанбе? Менавіта ў той дзень у горадзе пачаліся пагромы, збівалі людзей, падпальвалі будынкі, рабавалі. У бальніцы горада паступалі цяжкапараненыя. Былі нават ахвяры. На жаль, гісторыя СССР за апошнія два-тры гады дала нямала прыкладаў такіх неверагодных па прычыне свайго ўзнікнення і страшэнных па сваіх выніках падзей. Ужо адзначылі самотныя гадавіны іх у Рызе, Вільнюсе, Тбілісі, Баку. Рыхтуецца да такога дня і Душанбе.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам «Звязды» адказны супрацоўнік апарату прэзідэнта Таджыкістана (сваё прозвішча ён прасіў не называць) сказаў, што 12 лютага ў Душанбе могуць адбыцца самыя непрадбачаныя падзеі. Абстаноўка ў сталіцы моцна наэлектрызавана. Вядома, што апазіцыя рыхтуецца да гадавіны трагічных падзей, але яна пакуль не раскрывае планаў сваіх дзеянняў. Улады настроены рашуча, сілы правапарадку будуць выкарыстоўваць усе сродкі, якія маюцца ў іх распараджэнні, каб не дапусціць (як падкрэсліў наш субяседнік — законнымі метадамі) паўтарэння трагедыі. Урад, аднак, гатовы да дыялога з апазіцыяй.

## ХРОНІКА КАНФЛІКТАЎ

### ВЫМУШАНЫ ВОДПУСК

**У цэхах аб'яднання «Гомсельмаш» бязлюдна — шматтысячны калектыў у вымушаным водпуску. Прычына спынення прадпрыемства ў адсутнасці металу і камплектуючых, якія не паступаюць з іншых краін СНД.**

**Крыўдны прастой. Тым больш, што універсальныя энергетычныя сродкі гомельскіх сельгасмашынабудаўнікоў маркі «Палессе», якія зараз знаходзяцца ў вытворчасці, заваёўваюць усё большы аўтарытэт у рэспубліках СНД і на міжнародным рынку.**

**Водпуск працягнецца месяц. Ці змогуць за гэты час заводскія забеспячэнцы дзесьці дастаць нестаючыя матэрыялы, каб прыступіць да працы? Адказу на гэтае пытанне пакуль няма.**

### СЯДЗЕМ РАДКОМ, ПАГАВОРЫМ ЛАДКОМ

САЛІГОРСК. (**М. Лойка**). 26 студзеня саветам прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый НПГБ (незалежных прафсаюзаў гарнякоў Беларусі) аб'яўлена перадзабастовачнае становішча ў калектывах горнаруднай і перапрацоўчай прамысловасці. Справа ў тым, што яшчэ на пачатку года НПГБ накіраваў прэм'ер-міністру рэспублікі Вячаславу Кебічу заяву з прапановай неадкладна сесці за стол перагавораў і абмеркаваць тарыфнае пагадненне аб рабоце горназдабываючых і перапрацоўчых прадпрыемстваў у 1992 годзе. У пагадненні агавораны меры і гарантыі па сацыяльнай і эканамічнай абароненасці працоўных галіны. Пасля 26 студзеня двойчы — у Мінску і Салігорску — садзіліся за стол перагавораў прадстаўнікі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і НПГБ, і абодва разы перагаворы заходзілі ў тупік. 5 лютага ўзнікла стыхійная забастоўка на 1-м рудніку, але пасля 2-зменнага прастою шахцёры аднавілі работу.

Урадавая камісія лічыць, што пагадненне з шахцёрамі не можа быць падпісана па прычыне адсутнасці адпаведных заканадаўчых актаў. Шахцёры ж у сваю чаргу прытрымліваюцца супрацьлеглай думкі.

Пасля перагавораў у Салігорску, якія не далі вынікаў, НПГБ заклікаў шахцёраў пачаць 11 лютага бестэрміновую забастоўку на ўсіх горна-здабываючых і перапрацоўчых прадпрыемствах рэспублікі. Апрача таго, незалежныя прафсаюзы гарнякоў заручыліся падтрымкай незалежных прафсаюзаў гарнякоў краін СНД, якія, дарэчы, заявілі, што калі ўрад Беларусі не задаволіць патрабаванні салігорцаў, то рэспублікі перастануць пастаўляць паліва з рэгіёнаў Украіны, Расіі і Казахстана.

Учора часткова спынілася работа ў забоях 1-га і 4-га руднікоў. Супрацьстаянне працягваецца. Ясна адно — задаволіць патрабаванні шахцёраў ураду будзе архіскладана.

### СУСТРЭЧА Ў САЎМІНЕ

**10 лютага адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. Кебіча з рэдактарамі газет «Звязда», «Советская Белоруссия» і «Белорусская нива».**

**Прэм'ер-міністр расказаў аб асабістых уражаннях па выніках паездкі ў Брэсцкую і Гродзенскую вобласці. Затым былі ўзняты праблемы выжывання газет ва ўмовах рынку, іншыя пытанні, якія хвалююць журналістаў. В. Ф. Кебіч з разуменнем паставіўся да надзённых клопатаў рэдакцыйных калектываў, сказаў, што будуць знойдзены дадатковыя магчымасці для вырашэння ўзнікшых цяжкасцей.**

**Ул. інф.**

## НЕ СПАЗНІЦЦА Б...

Як ужо паведамлялася ў «Звяздзе», адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Асацыяцыя створана — з'явілася надзея на лепшую будучыню для людзей, што прайшлі не толькі праз пакуты фізічнага і матэрыяльнага плана, але і праз нянавісць улад, знявагу блізкіх і знаёмых. Пакуты, якіх сапраўды не пажадаеш нікому. Таму ў гэтай сувязі здаецца вельмі сімвалічным малюнак на трыбуне з'езда: за крыжам, што абвіты калючым дротам, узыходзіць сонейка.

Нарэшце. Узыходзіць святло вышэйшай праўды аб нашым няпростым мінулым і яго ахвярах. І непрызнаных героях таксама.

Засмучае толькі адно. Пакуль што мы маем толькі ўсход, толькі першыя промні прызнання праблем бязвінна пацярпеўшых ад Сістэмы. Пакуль яшчэ не асуджана прынародна сама Сістэма і яе заснавальнікі.

А гэтым людзям, на жаль, не так многа хадзіць па гэтай зямлі. Не спазніцца б у чарговы раз з асэнсаваннем сваёй віны перад імі. З той матэрыяльнай дапамогай і кампенсацыяй, якія дазволяць ім хоць бы апошнія гады жыцця адчуць сябе ўтульна ў гэтай краіне.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

**На здымках:** удзельнік з'езда, былы палітзняволены мінчанін Мікалай **Яфрэмчанка;** Васіль **Шаранговіч** і Віктар **Піскароў** — члены Камісіі Вярхоўнага Савета РБ па рэабілітацыі правоў ахвяр палітычных рэпрэсій; у зале з'езда.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## КУЛЬТУРА: СІГНАЛ «SOS!» ПАДАДЗЕНЫ!

**Шчыра кажучы, столькі ўзрушаных, усхваляваных інтэлігентаў мне раней бачыць не даводзілася. Што ні чалавек — імя з вялікай літары: Ігар Лучанок і Мікалай Яроменка, Ігар Дабралюбаў і Іван Чыгрынаў, Расціслаў Янкоўскі і Яўген Кавалеўскі, Аляксей Дудараў і Аляксей Марачкін, Віктар Вуячыч і Міхась Дрынеўскі... Гонар і сумленне нашай нацыянальнай культуры, усёй беларускай нацыі.**

У Палац мастацтва ў мінулы панядзелак іх прывяло сапраўднае гора. Тое гора, якое неспадзяванай навалай звалілася і на іх саміх, і на іх калег-аднадумцаў з творчых саюзаў кампазітараў, кінематаграфістаў, пісьменнікаў, архітэктараў, мастакоў, журналістаў, дызайнераў, тэатральных і музычных дзеячаў... І хоць асноўная гаворка на аб'яднаным пленуме творчых саюзаў і грамадскіх фондаў Рэспублікі Беларусь вялася вакол іх жабрацкага існавання, вакол непамерна высокіх дзяржаўных пабораў з творчых саюзаў, зафіксаваных Вярхоўным Саветам у Законе аб падатках, тэма дыскусіі аказалася куды шырэйшай — аб бядотным стане беларускай нацыянальнай культуры ў цэлым.

...З болем на душы расказаў нам народны артыст Мікалай Яроменка нядаўні выпадак са свайго жыцця. Завітаў да яго як да даўняга сябра і як да старшыні праўлення Саюза тэатральных дзеячаў Здзіслаў Стома. Той самы Стома, які добрае паўстагоддзе радаваў нас у беларускім тэатры і кінематографе. Зайшоў і кажа: «Коля, ты там з начальствам кантачыш... Як маглі дажыцца да такога? Як магло здарыцца, што я сёння атрымліваю самую маленькую пенсію ў рэспубліцы?..» Паводле апошніх пераразлікаў пенсія ў Здзіслава Францавіча —350 рублёў. Вось і жыві! «І гэта—буйнейшы майстар беларускай нацыянальнай культуры!» — выказаў узрушэнне Мікалай Мікалаевіч.

Прывёў М. Яроменка і другі прыклад. Сёння месячная зарплата вядучых майстроў сцэны, гэта значыць народных і заслужаных артыстаў усіх катэгорый, на 500 рублёў менш, чым у вадзіцеляў трамвая. Недарэчна маленькія канцэртныя стаўкі, ганарары за творы, якія не пераглядаюцца ўжо па 20—30 гадоў. Такім чынам, многія творчыя людзі існуюць на жабрацкія даходы.

Крыўдна і балюча слухаць такое. І гэта ў суверэннай рэспубліцы, якая першай у Садружнасці Незалежных Дзяржаў прыняла Закон аб культуры. Тым не менш, у самыя застойныя, беспрасветныя гады сфера культуры карысталася хоць нейкімі льготамі. Нават у час вайны такое было...

І ці варта будзе здзіўляцца, калі ўслед за прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі і іншымі навукоўцамі вось-вось пачнуць пакідаць сваю Радзіму работнікі культуры, адукацыі, аховы здароўя, становішча якіх сёння аднолькавае — жабрацкае?!

Альтэрнатывы існаванню творчых саюзаў у цяперашняй сітуацыі няма. Кіраўнікі саюзаў, нібы адчуваючы нядобрае, спрабавалі зрабіць папераджальныя крокі. Склікаліся аб'яднаныя пасяджэнні сакратарыятаў, былі звароты з пісьмамі ў Вярхоўны Савет і друк, сустрэчы ў Міністэрстве фінансаў і планава-бюджэтнай камісіі Вярхоўнага Савета, са Старшынёй парламента Станіславам Шушкевічам. Разуменне нібыта і было: творчым людзям спачувалі, а падаткі на прыбытак, дабаўленую вартасць, нерухомасць абяцалі для Саюзаў адмяніць... Але на справе словы так і заставаліся абяцаннямі.

Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч выказваў, напрыклад, такую думку: маўляў, навошта вам ільготы. Давайце забяром у вашых прадпрыемстваў, у вашай вытворчай сістэме, раіў ён, грошы на падаткі, аддадзім іх у бюджэт, потым дадзім на культуру 3 працэнты і з іх вы возьмеце сваю долю...

Творчыя ж саюзы не былі дагэтуль, не хочуць быць і надалей бюджэтнымі арганізацыямі. Яны — пазаўрадавыя, грамадскія незалежныя структуры. І калі іх паставіць на бюджэтнае фінансаванне, з імі не захочуць мець ніякіх спраў у свеце, іх проста выведуць з міжнародных пазаўрадавых інстытутаў. Іх жа вельмі многа ў кожнага творчага саюза.

Дапамогу, абяцаную С. Шушкевічам, тры разы (!) блакіравалі пры галасаванні выбраннікі народа на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Ільготнае падаткаабкладанне для саюзаў мастакоў, кінематаграфістаў, кампазітараў, пісьменнікаў, журналістаў і іншых «не прайшло». Была спроба правесці пытанне праз Прэзідыум Вярхоўнага Савета, але з 26 членаў яго 20 прагаласавалі супраць.

Кісларод, па вобразнаму выказванню таго ж Мікалая Яроменкі, быў перакрыты канчаткова. Праўда, ва ўчарашніх газетах быў нарэшце апублікаваны пералік грамадскіх фондаў, арганізацый і асацыяцый, якія ажыццяўляюць дабрачынную, экалагічную і аздараўленчую дзейнасць, унесены прыбытак якім выключаецца ў 1992 годзе з абкладаемага падаткам прыбытку прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый. Творчыя саюзы рэспублікі ў пералік трапілі. Толькі гэтага, аднак, так мала!

А ў той жа час у іншых рэгіёнах былога Саюза ССР, дзе яшчэ зусім нядаўна раўняліся менавіта на нас, ствараюцца самыя спрыяльныя ўмовы для выжывання людзям творчых прафесій. Грузія, знаходзячыся, па сутнасці, у стадыі грамадзянскай вайны, адмяніла ўсе падаткі з творчых саюзаў. Тое ж зроблена ў Азербайджане, Кыргызстане, а ў Казахстане, акрамя гэтага, прэзідэнт Нурсултан Назарбаеў даў кожнаму з творчых фарміраванняў па аднаму мільёну рублёў дапамогі. У нас жа паступаюць інакш...

Справа даходзіць да парадоксаў — незразумелых, калі называць рэчы сваімі імёнамі — нецывілізаваных, проста дзікіх. Саюз мастакоў рэспублікі закупіў у сваіх членаў на 4 мільёны рублёў (зазначу — у цэнах папярэдніх гадоў) работ, але іх ніхто, у тым ліку і самі майстры, не бачыць: яны ляжаць мёртвым грузам у сховішчах. А гэта ж — лепшыя творы сапраўдных майстроў пэндзля! «Нам сорамна,— сказаў на пленуме старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларусі Генадзь Буралкін, што такая амаральнасць у адносінах да мастацтва праяўляецца да гэтага часу...»

Так, каб «рабіць» культуру высокамастацкай, на ўзроўні цывілізацыі (а да гонару беларусаў, яны гэта ўмеюць), патрэбна матэрыяльная база. Яе ж у нас практычна няма. Амаль двухмільённы Мінск мае ўсяго адну выставачную залу — Палац мастацтва. Больш таго, робіцца замах і на яго. Падпісана ўжо рашэнне Мінгарвыканкома аб уключэнні Палаца мастацтва ў камунальную ўласнасць Мінска. Тое ж, за якія сродкі ён узведзены, ужо не цікавіць нікога. Дык вось, нагадаю «бацькам» беларускай сталіцы: пабудаваны палац за кроўныя грошы творчага саюза!

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ аб'яднанага пленума творчых саюзаў і грамадскіх фондаў Рэспублікі Беларусь

У цывілізаваным свеце заўсёды былі і ёсць сферы жыцця грамадства, якім дзяржава надае асаблівую ўвагу. Без сумнення, да такіх пластоў жыцця адносіцца і культура. У сілу сваёй сацыяльнай і эканамічнай неабароненасці, няздольнасці процістаяць жорсткім рыначным адносінам культура без гарантаванай дзяржаўнай падтрымкі асуджана на выміранне.

Ад умення дзяржавы будаваць сваю палітыку так, каб, з аднаго боку, не прынізіць культуру дробнымі падачкамі, а, з другога, не пакінуць яе сам-на-сам з нявырашанымі сацыяльнымі і эканамічнымі праблемамі, можна меркаваць аб яе кампетэнтнасці, мудрасці і дальнабачнасці. Выходзячы з рашэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дзеянняў урада, мы можам гаварыць аб іх негатыўных адносінах да творчых саюзаў — асновы прафесіянальнага і духоўнага жыцця грамадства.

Як вядома, ні адзін творчы саюз не атрымлівае ад дзяржавы датацый. Каб забяспечыць выкананне праграм у падтрымку нацыянальнай культуры, аказаць дапамогу членам творчых саюзаў у вырашэнні вострых сацыяльных праблем, мы самастойна зарабляем сродкі. Аднак Закон аб падатках, прыняты на нядаўняй сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, зусім пазбаўляе нас такой магчымасці і фактычна вымушае творчыя саюзы самаліквідавацца. А па сутнасці ж, гэта адзіныя арганізацыі, якія рэальна аказваюць уплыў на творчыя працэсы, што процістаяць пранікненню ў нацыянальную культуру нізкапробных твораў. І калі адбудзецца знішчэнне творчых саюзаў, то нашу культуру захлісне хваля бездухоўнасці, калецтва і пошласці.

Адказнасць за лёс нацыянальнай культуры, боль і трывога за яе бліжэйшую будучыню прымусілі нас неаднаразова звяртацца да парламентарыяў, у Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Аднак мы не былі пачуты. У нас ёсць усе падставы меркаваць, што адкрытае ігнараванне нашых надзённых праблем і зваротаў прадыктавана не клопатам аб дзяржаўнай казне. Разрушыўшы творчыя саюзы, дзяржава шляхам падаткаабкладання заробіць ўсяго толькі 5—7 мільёнаў рублёў. На правядзенне такой мэтанакіраванай, антыкультурнай палітыкі можа пайсці толькі некампетэнтны, непрафесіянальны парламент, які адарваўся ад рэальнага жыцця і народа, які выбраў яго.

Жыццё пераконвае: у жорсткіх умовах выжывання дасягнуць жаданых вынікаў і выстаяць можна толькі тады, калі мы не раз'яднаны і не застаёмся сам-на-сам са сваімі праблемамі. Наш аб'яднаны пленум — гэта першы сур'ёзны крок на шляху стварэння Асацыяцыі творчых саюзаў. Толькі агульная адказнасць і трывога за лёс беларускай культуры па-сапраўднаму згуртуюць нас, дадуць нам сілы для справядлівай барацьбы за выжыванне нашых саюзаў і дапамогуць дастойна перажыць гэтыя горкія і няпэўныя часы.

Аб'яднаны пленум творчых саюзаў і грамадскіх фондаў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

**1. Выказаць недавер'е парламенту Рэспублікі Беларусь, які скампраметаваў сябе некампетэнтнасцю, непрафесіяналізмам, адрывам ад рэальнага жыцця і патрэб народа.**

**2. Адобрыць рашэнне аб'яднанага сакратарыята творчых саюзаў аб стварэнні Камітэта абароны культуры Рэспублікі Беларусь і стачкома.**

**3. Даручыць Камітэту абароны культуры Рэспублікі Беларусь падрыхтоўку Устаноўчай канферэнцыі Асацыяцыі творчых саюзаў і грамадскіх фондаў Беларусі і яе правядзенне 5 сакавіка 1992 года.**

**4. Даручыць Камітэту абароны культуры падрыхтаваць зварот у ЮНЕСКО аб стане беларускай нацыянальнай культуры.**

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Пад старшынствам С. С. Шушкевіча 10 лютага адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Разгледжаны пытанні чарговай сесіі. Дзевятую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання вырашана склікаць 11 сакавіка 1992 года. Для разгляду на ёй будзе прапанавана больш за 40 пытанняў.

На пасяджэнні Прэзідыума заслуханы і абмеркаваны даклад старшыні Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь С. А. Багданкевіча «Аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь». Абмеркаваны таксама праблемы беларускай мовы ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Па гэтаму пытанню інфармацыю рабіў старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Н. С. Гілевіч.

Зацверджаны тэкст Прысягі радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама Палажэнне аб парадку прыняцця Прысягі.

Разгледжаны заявы групы супрацоўнікаў санаторыя «Беларусь», якія пражываюць у г. Друскінінкай Літоўскай Рэспублікі, аб прыёме іх у грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Просьба ўсіх задаволена і Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета яны прыняты ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Зацверджаны таксама ўзор і апісанне пасведчання і ўкладыша да пасведчання народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь.

На пасяджэнні Прэзідыума абмеркаваны і іншыя пытанні жыцця рэспублікі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

## *ПАСТАНОВА*

### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку дня дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання»**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Адобрыць і перадаць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку дня дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.**

**10 лютага 1992 г. г. Мінск.**

## *ПРАЕКТ*

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**АБ ПАРАДКУ ДНЯ ДЗЕВЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Уключыць у парадак дня дзевятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Даклад Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Кебіча В. Ф. аб выкананні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб падаткаабкладанні.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ...

### Каментарый да двух лістоў—«ліста шчасця» і «ліста няшчасця»

*«Час забіваць, і час урачаваць; час разбураць, і час будаваць... Час раскідваць камяні, і час збіраць камяні; час абдымаць, і час ухіляцца ад абдымкаў... Час раздзіраць, і час сшываць; час маўчаць, і час гаварыць».*

*З «Кнігі Еклезіяста, ці Прапаведніка».*

Гэтыя лісты я атрымаў амаль адначасова, недзе адразу пасля таго, як скончыўся паток навагодніх і калядных паштовак (час святкаваць і віншаваць, і час вяртацца да штодзённага жыцця). Адно прыйшло на хатні адрас, другое—на адрас Вярхоўнага Савета, Камісіі па пытаннях галоснасці і правоў чалавека. Адно ананімнае і кінутае ў адну з паштовых скрынак Мінска, другое — падпісанае поўным імем (імя, імя па бацьку і прозвішча) і апушчанае ў адну з паштовых скрынак далёкага Турсунзадэ (Таджыкістан). Адно, «падкінутае», абяцала лёгкае шчасце, нагадвала пра існаванне таямнічага і рэальнага свету, пра (цытую) «чудеса параллельного мира»; другое, наадварот, сведчыла аб тым, як цяжка даюцца чалавеку яго лёс, яго шчасце, гаварыла пра наш рэальны свет, наш суровы сённяшні дзень...

Ну, ды не буду больш інтрыгаваць чытача — лепш прывяду абодва лісты. Без перакладу на беларускую. Без якіх-небудзь скарачэнняў ці правак (адзін забараняе мяняць тэкст, другі не мае патрэбы ў якім-небудзь рэдагаванні).

Ліст першы. Называецца: «Письмо счастья». Вось яно, гэтае пісьмо:

«Само письмо находится в Ревелице (Голландия). Оно обошло вокруг света 444 раза и пришло к Вам. С получением письма придет к Вам счастье, удача, но с одним условием. Письмо надо отправить тому, кто в нем нуждается, тому, кому Вы желаете счастья. Послать надо 20 писем в течение 100 часов. После письма придет неожиданность, даже если вы не верите в чудеса параллельного мира. Жизнь письма началась в 1854 г. В Россию оно пришло в начале XX века. В 1907 г. его получила бедная крестьянка Хрупова, через 4 дня она откопала в своем огороде клад. Впоследствии она вышла замуж за князя Голицына. Сейчас ее дочь миллионерша живет в Америке. В 1937 г. письмо пришло маршалу Тухачевскому. Он сжег его. Через 4 дня его арестовали, а затем расстреляли его же сослуживцы. В 1921 г. Джеймс Клосс получил и решил размножить. Через 4 дня он выиграл 1 млн. долларов в рулетку. Его сослуживец порвал письмо и попал в армию, ему ампутировали обе руки. В 1964 г. Хрущеву на даче подбросили это письмо. Он его выбросил. Через 4 дня его свергли друзья по партии. В 1985 г. певица Пугачева отправила 20 писем. Через 4 дня она получила приглашение американской фирмы и через 4 дня получила на свой счет 2 млн. долларов. Таких примеров много. Ни в коем случае не рвите письмо. Итог: 20 писем за 100 часов. Результат через 4 дня после отправки открытым или в конверте. Главное — чтобы оно нашло своего адресата. Текст не менять».

Ліст другі. Па аналогіі з першым і ў адпаведнасці са зместам і танальнасцю яго можна назваць «письмом несчастья». Вось гэты ліст:

«Уважаемый Анатолий Ильич!

Вот только что мне пришлось отложить в сторону листок — письмо, которое мне очень хотелось написать на родном языке — белорусском. И хотя я свободно читаю белорусские журналы, книги, знаю и разговорную речь, а вот, оказывается, легко и грамотно излагать свои мысли на родном языке уже не могу. А дети мои совсем не знают родного языка, хотя они, как и я сама,— чистокровные белорусы.

Начну все по порядку. Обращаюсь я к Вам как к заместителю председателя Комиссии по вопросам гласности и прав человека, как к народному депутату Беларуси. Я давно хотела написать это письмо, потому что убеждена: я являюсь типичным примером того, как можно нарушать права человека в узаконенном порядке.

Так вот, сейчас я живу с семьей в городе Турсунзаде, в Таджикистане. Но попала я сюда не по доброй воле, а по распределению в 1973-м году после окончания Полоцкого педучилища. Из нашего выпуска нас **выслали** сюда семь человек. Да, я не оговорилась, именно **выслали,** именно **ссылка,** иначе как еще его можно назвать? Ведь здесь, в Таджикистане, нас распределили в самые отдаленные кишлаки, куда местные русские учителя просто отказывались ехать. И мы, не зная ни слова по-таджикски, должны были обучать русскому языку учеников, которые, естественно, не знали ни слова по-русски. Разве это не похоже на издевательство? Ни о каких льготах для молодых специалистов здесь и речи не могло быть. С жильем устраивались, кто как мог. Я, например, жила в пустом классе; даже кровати не было, ведь здесь, в кишлаках,

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

# Вольнасці новых банкаў,

## якія вядуць да дэстабілізацыі грашова-фінансавай сістэмы

Працэс фарміравання самастойнай двухузроўневай банкаўскай сістэмы рэспублікі, які праходзіў летась, практычна завершаны, і цяпер галоўная задача — паляпшэнне якаснага боку. Увогуле, надышоў час прааналізаваць дзейнасць яе асноўнага звяна — а менавіта камерцыйных банкаў.

На 1 студзеня г. г. у рэспубліцы дзейнічала 26 камерцыйных банкаў з аб'ёмам актыўных аперацый на 229,9 мільярда рублёў. Дарэчы, сёлета з'явіцца яшчэ некалькі банкаў, хоць рост іх, на маю думку, будзе нязначны. Мяркуецца, што новыя банкі ў рэспубліцы ў асноўным стануць сумеснымі з замежнымі, будзе пашырацца сетка філіялаў ужо дзеючых.

Ад іх работы ў многім залежыць працэс стабілізацыі ў эканоміцы рэспублікі і ў яе грашова-крэдытнай сферы. За мінулы год адбыўся значны разрыў паміж ростам грашовай масы і выробленым валавым нацыянальным даходам. У выніку рэзкага зніжэння запасаў тавараў у аптовай і рознічнай сетках яны забяспечваюць рубель зберажэнняў і наяўных грошай толькі на 12—13 капеек.

Павелічэнню гэтай грашовай масы садзейнічала не зусім апраўданая крэдытная палітыка камерцыйных банкаў. Хіба эканамічна абгрунтавана, калі пры паўсюдным зніжэнні вытворчасці і таварных запасаў крэдыты, прадастаўленыя камерцыйнымі банкамі прадпрыемствам і насельніцтву, узраслі за год на 12,8 мільярда рублёў, ці ў 2,2 разы?!

Аналіз структуры крэдытных укладаў сведчыць аб прыцягненні ў значных размерах крэдытаў для пакрыцця запасаў тавараў забеспячэнска-збытавых арганізацый (1,7 мільярда рублёў, ці рост у 3,2 раза) і прадпрыемстваў спажывецкай кааперацыі (0,9 млрд., ці 1,7 раза), што ва ўмовах таварнага дэфіцыту ўвогуле з'яўляецца ненармальнай з'явай (між іншым, па гэтым факце можна меркаваць, што тавары проста прыхоўваліся да «лепшага часу»). Гэтыя арганізацыі зусім не думаюць аб нарошчванні ўласных абаротных сродкаў. Тым не менш камерцыйныя банкі бесперашкодна субсідзіруюць іх, пакрываючы практычна ўсе затраты крэдытамі. А ў той жа час крэдыт павінен насіць часовы характар і не выкарыстоўвацца як пастаянная крыніца фарміравання абаротных фондаў.

Думаецца, што прадпрыемствы і арганізацыі, якія сур'ёзна не займуцца пытаннямі стварэння абаротнага капіталу ў размеры сумы, не меншай за пастаянныя, не зніжаемыя активы, будуць у самы бліжэйшы час мець цяжкасці з атрыманнем пазыкі банка. Шляхоў для фарміравання абаротнага капіталу ва ўмовах лішкаў грашовай масы шмат, пры гэтым можна прыцягваць дадатковыя сродкі на паявой, акцыянернай ці іншай аснове.

Камерцыйныя банкі не абцяжарваюць сябе таксама адшукваннем свабодных грашовых сродкаў і «замарожваннем» іх у доўгатэрміновыя дэпазіты. А гэта ж святы абавязак любога банка. На 1 студзеня г. г. аб'ём сродкаў у тэрміновых дэпазітах у камерцыйных банках складаў усяго 1,6 мільярда рублёў, ці 8,1 працэнта ў агульнай суме сродкаў народнай гаспадаркі. Больш таго, назіраецца тэндэнцыя зніжэння сродкаў у дэпазітах, у прыватнасці, за снежань.

Пры такім нязначным размеры тэрміновых дэпазітаў асобныя банкі, выдаючы доўгатэрміновыя крэдыты, вядома, не забяспечваюць гэтыя крэдыты адпаведнымі рэсурсамі. Шэраг банкаў з-за адсутнасці неабходнай сумы тэрміновых дэпазітаў наогул не маюць права прадастаўляць крэдыты для мадэрнізацыі народнай гаспадаркі.

У той жа час акумуліраваныя на рахунках камерцыйных банкаў кароткатэрміновыя крэдытныя рэсурсы выкарыстоўваюцца для ўкладанняў у зваротныя сродкі прадпрыемстваў і арганізацый на беззваротнай і бестэрміновай аснове. У асноўным гэта мае месца пры крэдытаванні па спецыяльных пазыковых рахунках, сам механізм якіх садзейнічае перманентнаму або аўтаматычнаму крэдытаванню.

Камерцыйныя банкі не зацікаўлены ўкладваць свае рэсурсы ў доўгатэрміновыя праграмы. Застаецца праблематычным пытанне павелічэння банкамі свайго ўстаўнога капіталу, які з'яўляецца да таго ж і галоўнай крыніцай доўгатэрміновых крэдытных рэсурсаў. А трэба ж зыходзіць з таго, што той банк, які не думае і не працуе над павелічэннем свайго ўстаўнога фонду — гэта не перспектыўны банк, асабліва ў перыяд інфляцыі грашовай масы. Хутчэй за ўсіх гэта зразумелі «Прыорбанк» і «Беларусь», якія зрабілі канкрэтныя захады да нарошчвання свайго ўстаўнога фонду і ў якіх, дарэчы, гэты фонд быў адразу сфарміраваны ў даволі значным размеры (звыш 60 мільёнаў рублёў).

Нізкі ўзровень уласнага капіталу камерцыйных банкаў прадвызначае парушэнне імі эканамічных норм, нетрывалась самой банкаўскай справы. Перавышэнне шэрагам камерцыйных банкаў суадносін паміж размерамі ўласных сродкаў і абавязацельствамі павышала рызыку іх аперацый.

У апошні час шырока распаўсюдзілася практыка прадастаўлення так званых «бланкавых» крэдытаў, г. зн. крэдытаў без матэрыяльнага забеспячэння. Выдача гэтых крэдытаў таксама з'яўляецца аперацыяй павышанай фінансавай рызыкі.

Нельга прызнаць эканамічна абгрунтаванай і праводзімую банкамі працэнтную палітыку, калі іншы раз плата за крэдыт абумоўлена чыста суб'ектыўнымі меркаваннямі. Такая палітыка дазваляе інвесціраваць сродкі ў нізкарэнтабельныя вытворчасці, вядзе да іх марнатраўства і ў канчатковым выніку — да інфляцыі. Паказальна, што налічаемы сярэдні пазыковы працэнт у цэлым па камерцыйных банках фарміраваўся ў межах ад 2 (?) да 16.

З'явіліся факты, калі камерцыйныя банкі сталі практыкаваць падмену прынцыпу платнасці крэдыту ўдзелам у прыбытках інвесціруемага мерапрыемства ці атрыманнем платы ў натуры.

Гэтыя і іншыя недахопы ў рабоце камерцыйных банкаў звязаны ў асноўным з «цяжкасцямі росту», але ўжо сёння пры той сітуацыі, якая склалася ў грашовым абарачэнні, любыя іх «вольнасці» недапушчальныя.

**У. СІДАРАЎ,**
**намеснік старшыні праўлення Беларускага нацыянальнага банка.**

# БЕЛАРУСКІ ГОЛАС З ВІЛЬНІ

**Рэдактар Літоўскага радыё Іонас Лаўрынавічус — пра беларускія перадачы ў літоўскім эфіры**

**— Як сёння адчуваюць сябе беларусы ў Вільні ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі меншасцямі?**

— На жаль, самаадчуванне іх нельга назваць дужа добрым. На працягу стагоддзяў Вільня была скрыжаваннем культур, своеасаблівым чатырохкутнікам, дзе суседнічалі і развіваліся літоўская, беларуская, польская руская культуры. Перыяд таталітарызму больш за ўсё пайшоў на шкоду менавіта беларусам. Беларускасць сёння ў Вільні адчуваецца вельмі слаба. Мне давялося гутарыць з некаторымі старымі віленчукамі-беларусамі — такімі, як Антон Луцкевіч. Агортвае сум пасля гэтых размоў: колішні асяродак беларускай культуры ў заняпадзе, хоць энтузіясты і спрабуюць удыхнуць у яго жыццё.

**— Вы адзін з нямногіх літоўскіх журналістаў, чый голас у віленскім эфіры гучыць па-беларуску. Як часта можна пачуць беларускія перадачы на літоўскім радыё?**

— Пакуль што — раз на тыдзень, па суботах, а палове дванаццатай раніцы, па другой праграме. Праўда, маёй заслугі ў гэтых перадачах пакуль што няма, — робяцца яны выключна на энтузіязме Антона Луцкевіча і яго аднадумцаў. Гэтыя штотыднёвыя паўгадзінныя перадачы маюць у асноўным культуралагічны накірунак і робяцца, на жаль, не заўсёды на прафесіянальным узроўні.

З кіраўніцтвам віленскага радыё дасягнута дамоўленасць аб штодзённых пяціхвілінных інфармацыйных выпусках на беларускай мове. Гэтай справай зараз я і займаюся. Наладжваю кантакты з мінскімі журналістамі, каб мець надзейныя інфармацыйныя каналы з Беларусі, без чаго рабіць такія перадачы немагчыма.

**— Вы знаходзіце паразуменне з літоўскімі калегамі.**

— У асноўным — так. І ў Мінску, і ў Вільні разважныя галовы разумеюць, што нам трэба наладжваць масты, а не агрызацца адзін на аднаго з-за праблем, якія сёй-той спрабуе падкінуць, каб нацкаваць і перасварыць нашы народы. Пазбегнуць гэтага, наладзіць сувязі, спрыяць развіццю культуры беларусаў Віленшчыны — вось справа, якой, я мяркую, будуць садзейнічаць нашы перадачы.

**— Вы выдатна гаворыце па-беларуску. Гэтак жа і па-літоўску?**

— Па-літоўску, на жаль, намнога горш. Так распарадзіўся лёс. Я вырас у Расіі. Вучыўся ў Мінску. У вас жа доўгі час працаваў — на Беларускім радыё, у часопісе «Народное хозяйство Белоруссии», газеце «Беларускі час». Але зямля продкаў прыцягвала ўвесь час. Так апынуўся ў Вільні. Хоць Беларусь для мяне, бадай, такая ж радзіма, як і Літва.

**Гутарыў Валянцін ЖДАНКО.**

*Пастанова*

**Прэзідыўма Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

# Аб ходзе ажыццяўлення зямельнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь

Адзначыць, што ў рэспубліцы праведзена пэўная работа па рэалізацыі палажэнняў Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб зямлі, Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 лютага 1991 года «Аб правядзенні зямельнай рэформы ў рэспубліцы». Пры мясцовых Саветах народных дэпутатаў створаны камісіі па каардынацыі работ па правядзенню зямельнай рэформы. Сфарміраваны спецыяльны фонд зямельнага запасу мясцовых Саветаў народных дэпутатаў агульнай плошчай 352,6 тыс. гектараў. Для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі грамадзянам у мінулым годзе дадаткова выдзелена 153,2 тыс. гектараў зямельных угоддзяў, з іх 143,6 тыс. гектараў ворных зямель, арганізавана 693 сялянскія (фермерскія) гаспадаркі, якім прадастаўлена 14 тыс. гектараў зямлі. На 18,8 тыс. гектараў расшырыліся плошчы, якія заняты калектыўнымі садамі і агародамі грамадзян. Завяршаецца работа па вызначэнню меж сельскіх населеных пунктаў і перадачы іх у веданне адпаведных Саветаў народных дэпутатаў.

Разам з тым мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, іх выканаўчыя і распарадчыя органы праводзяць недастатковую работу па фарміраванню спецыяльнага фонду зямельнага запасу для надзялення зямельнымі ўчасткамі грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. У шэрагу месцаў у спецыяльны фонд зямельнага запасу для прадастаўлення ўчасткаў грамадзянам уключаны пераважна землі, якія патрабуюць вялікіх капітальных затрат і часу на іх паляпшэнне. Удзельная вага ворнай зямлі ў агульнай плошчы спецыяльнага фонду ў цэлым па рэспубліцы складае 37,1 працэнта, а ў Брэсцкай вобласці — 19, Віцебскай — 35 працэнтаў. На месцах недаацэньваецца сацыяльная значнасць вырашэння праблемы забеспячэння насельніцтва буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў зямельнымі ўчасткамі для арганізацыі калектыўнага садаводства і агародніцтва, індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва. У горадзе Мінску больш 20 тыс. жыхароў стаяць у спісах чарговасці на атрыманне зямельных участкаў, Гродна — 17 тыс. чалавек, Магілёве — 5 тыс. чалавек, Баранавічах — 3 тыс. чалавек і Пінску — 2,5 тыс. чалавек.

Марудна ідзе працэс стварэння сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак. У шэрагу месцаў грамадзяне, якія жадаюць весці сялянскую гаспадарку, месяцамі дабіваюцца атрымання зямельнага ўчастка. Часта выдзяляюцца зямельныя ўчасткі невялікіх памераў. Больш 10 працэнтаў арганізаваных гаспадарак маюць зямельныя ўчасткі плошчай меней 2 гектараў. Не наладжана матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне сялянскіх гаспадарак. Каля 30 працэнтаў гаспадарак у цяперашні час не маюць тэхнікі для апрацоўкі зямлі. З-за адсутнасці гарантаў на атрыманне сялянскімі гаспадаркамі крэдытаў у банку выдзелены спецыяльны фонд, выкарыстаны ў мінулым годзе толькі на 27 працэнтаў.

У мэтах стварэння ўмоў для надзялення грамадзян зямельнымі ўчасткамі Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Абавязаць мясцовыя Саветы народных дэпутатаў да 20 лютага 1992 года разгледзець ход правядзення зямельнай рэформы, прыняць меры па забеспячэнню строгага выканання тэрмінаў разгляду заяў грамадзян аб выдзяленні зямельных участкаў, перагледзець з удзелам Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь склад і плошчы спецыяльнага фонду зямельнага запасу з улікам найбольш поўнага задавальнення патрэбнасцей грамадзян у зямельных участках. Ускласці на старшынь мясцовых Саветаў народных дэпутатаў персанальную адказнасць за выкананне прынятых рашэнняў па правядзенню зямельнай рэформы.

2. Улічваючы складаную сітуацыю з забеспячэннем гарадскога насельніцтва рэспублікі зямельнымі ўчасткамі, Камітэту па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь правесці работу па адшуканню дадатковых участкаў для задавальнення патрэбнасцей грамадзян, уключаючы землі, прадастаўленыя для патрэб абароны.

3. Звярнуць увагу Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на неабходнасць безумоўнага выканання даручэння Вярхоўнага Савета рэспублікі па падрыхтоўцы заканадаўчага акта аб праве ўласнасці на зямлю і ўнясення яго на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

4. Камісіі па заканадаўству падрыхтаваць да чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праект Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях», прадугледзеўшы ў ім адказнасць за парушэнне парадку вырашэння пытанняў прадастаўлення зямельных участкаў для вядзення сялянскай (фермерскай) гаспадаркі.

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь унесці на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы аб надзяленні Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь дадатковымі паўнамоцтвамі.

6. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з камісіямі па аграрных пытаннях, харчаванню і сацыяльнаму развіццю сяла, па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі, па заканадаўству з улікам практыкі рэалізацыі зямельнай рэформы ў рэспубліцы аператыўна ўносіць на сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы па ўдасканаленню заканадаўчых актаў і прававога забеспячэння зямельнай рэформы.

7. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

забяспечыць выкананне палажэнняў Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы» ў частцы забеспячэння фермераў матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі;

вырашыць пытанні крэдытавання сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, уключаючы вызначэнні гаранта фермераў пры атрыманні крэдытаў у банку;

распрацаваць і прапанаваць методыку рэарганізацыі стратных і нізкарэнтабельных калгасаў і саўгасаў;

у двухмесячны тэрмін унесці прапанову ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь аб узмацненні адказнасці за парушэнні зямельнага заканадаўства, прадугледжаныя артыкулам 137 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб зямлі;

распрацаваць мерапрыемствы, якія забяспечваюць ахову маёмасці і матэрыяльных каштоўнасцей сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак;

распрацаваць і зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным кантролі за выкарыстаннем і аховай зямель.

8. Кантроль за выкананнем гэтай Пастановы ўскласці на Камісію па аграрных пытаннях, харчаванню і сацыяльнаму развіццю сяла.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

21 студзеня 1992 г.
г. Мінск.





# Пралеглі праз горад маршруты

Не ведаючы выхадных дзён, курсіруюць па горадзе аўтамашыны вытворчага аб'яднання «Мінскгандальаўтатранс», дастаўляючы хлеб, малако, іншыя прадукты харчавання ў магазіны, сталовыя, дзіцячыя ўстановы. Больш за 1.000 нязменных адрасоў у вадзіцеляў аб'яднання.

Але і яго калектыў не мінулі праблемы, якія сёння стаяць перад усімі транспартнікамі рэспублікі. Напрыклад, пасля спынення паставак імпартных запчастак рамонтнікам самім давялося асвойваць выпуск гэтых дэфіцытных дэталей. Іх якасць і сабекошт выгадна адрозніваліся ад замежных аналагаў. Таму ў час нядаўняга візіту былыя замежныя партнёры прапанавалі мінчанам дамовіцца аб пакупцы дэталей, выробленых у майстэрнях «Мінскгандальаўтатранса». Выгадная была прапанова, але справе пашкодзіла залішняя складанасць нашых ліцэнзійных правіл. Так і не заключылі кантракт, які мог бы стаць дадатковым стымулам развіцця вытворчасці і крыніцай валютных сродкаў.

Небяспечную тэндэнцыю бачаць аўтатранспартнікі ў павышэнні кошту прыроднага газу. За апошнія гады ўсе аўтамабілі аб'яднання былі пераведзены на гэтае таннае паліва, што прынесла не толькі эканамічны, але і экалагічны эфект. Сёння ж зноў стала выгадным выкарыстоўваць бензін, але кожны добра разумее: гэта вяртанне да бязлітаснага забруджвання навакольнага асяроддзя. «Вось табе і дагазаваліся», — нявесела жартуюць аўтатранспартнікі. Ці не варта ўзяць гэты факт на заметку ўраду?

**НА ЗДЫМКАХ: тэхнік Н. МІЦКЕВІЧ і інжынер Г. ФАСТАВА з дапамогай камп'ютэра вызначаюць тэрміны эксплуатацыі тэхнікі; пяць тон хлеба перавозіць кожны дзень вадзіцель М. СЕЛІВОНЧЫК; высокакваліфікаваны станочнік У. КАВАЛЁНАК — адзін з ветэранаў аб'яднання.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**



# ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

до сих пор не признают мебели. Но по молодости нас тогда это скорее забавляло, чем угнетало. Это сейчас у меня волосы на голове встают дыбом, когда все вспоминаю.

Но мне еще повезло. Вслед за мной сюда приехал, после службы, мой парень — белорус, мы поженились, переехали в город. Сразу в Белоруссию уехать не могли, так как я к тому времени уже училась на заочном отделении Таджикского государственного университета и жалко было его бросать. А потом все пошло по инерции: родилась старшая дочь, получили квартиру, закончила университет, родилась младшая дочь. С отъездом никак не получалось. Но еще была надежда на обмен квартиры. А потом — перестройка, обострение межнациональных отношений...

Мы здесь живем уже 19-й год. Хотя каждое лето проводим всей семьей у родителей в Белоруссии. А родители стареют, скоро без нас им не обойтись. Теперь же мы оказались в итоге не просто далеко от них, но даже в другом государстве. По какому, спрашивается, праву нас лишили Родины, родителей, родного языка? И даже белорусского гражданства мы можем не получить. Узбеки, таджики, которые живут в Беларуси, будут вашими гражданами, а мы, коренные белорусы,— нет. Чем же мы теперь отличаемся от пресловутых диссидентов? Правда, для высылки тех находили хоть формальные причины. А моя «вина» состоит лишь в том, что я добросовестно поехала отрабатывать по распределению.

Теперь же получается, что и здесь мы подвергаемся дискриминации (фактов предостаточно), и наша родная Беларусь, которая неизвестно за что нас изгнала, не собирается брать на себя ответственность за нашу дальнейшую судьбу.

Разве это не нарушение прав человека? Как Вы считаете, уважаемый Анатолий Ильич?

Я все-таки очень горжусь, что Беларусь стала независимой, что вернули ей Государственный флаг и другие исторические символы и ценности. Но разве не человек и его, человеческая, судьба являются главной ценностью любого цивилизованного общества? Так верните же тогда Беларуси и ее граждан. Неужели не нужны республике педагог с высшим образованием и строитель со средним специальным? А ведь получается, что мы сейчас для Родины представляем гораздо меньший интерес, чем буква «е» или «и» в названии ее столицы.

Горько и обидно, и, увы, нет сил почти в 40 лет начинать все сначала, то есть с комнаты в общежитии, с общей кухни, да еще с двумя взрослеющими дочерьми... В молодости мы это пережили довольно просто, но повторную пытку бытом в нашем возрасте уже не пережить.

І ўсё ж паспрабую закончыць свой ліст на роднай мове, хаця лічу, што беларуская мова больш падыходзіць для складання вершаў і песень. Мне вельмі хочацца спадзявацца, што я недарэмна звяртаюся да Вас, што Вы ўсё зразумееце і зможаце неяк дапамагчы такім сем'ям, як наша, ну хаця б тым, што звернеце ўвагу грамадскасці на існуючую праблему.

З павагай да Вас
Бабчонак Леанора Пятроўна.
Таджыкская ССР, г. Турсунзадэ».

Вось такі ён — «ліст няшчасця». Ліст — сведчанне. Ліст— дакумент. Ліст — абвінаваўчы акт. Абвінавачанне перш за ўсё ў адрас тых, хто прымушаў чалавека адной нацыянальнасці вучыць у абавязковым парадку рускай мове чалавека другой нацыянальнасці (выдаючы гэта за «дружбу народаў», «братнюю дапамогу» і г. д.), хто ставіў мэтай змешванне, скрыжоўванне, пераплаўку нацый (называючы гэты «плавільны кацёл» «новай гістарычнай супольнасцю — савецкім народам»), хто імкнуўся зрабіць з нармальных людзей, з гома сапіенс «саўкоў», маргіналаў, гома савецікус (называючы плён сваёй селекцыі «савецкімі патрыётамі» і «пралетарскімі інтэрнацыяналістамі»).

«...Я являюсь типичным примером того, как можно нарушать права человека в узаконенном порядке... Горько и обидно...» Ліст — споведзь. Ліст — пратэст. Ліст— крык аб дапамозе.

Сапраўды, «час забіваць, і час урачаваць, час разбураць і час будаваць, час маўчаць, і час гаварыць».

Шмат гадоў наша суайчынніца, беларуская настаўніца Леанора Пятроўна Бабчонак, цярпліва маўчала і, нарэшце, калі змяніўся час, калі надышоў момант ісціны і гістарычнай справядлівасці,— загаварыла. І загаварыла, як бачым, не пра ўдачліва-лёгкае, «доляравае» шчасце. Не, у адрозненне ад спявачкі Алы Пугачовай (гл. «письмо счастья»), якую фартуна ў асобе багатай фірмы, калі верыць «пісьму», ашчаслівіла двума мільёнамі, настаўніца Леанора Бабчонак змушана думаць пра нешта іншае, хоча і чакае іншага шчасця— каб ёй вярнулі грамадзянскую і нацыянальную годнасць, каб ёй вярнулі яе Радзіму, далі ёй права гаварыць і пісаць на роднай мове, жыць побач з састарэлымі бацькамі, каб, нарэшце, вярнулі... яе з яе сям'ёй Рэспубліцы Беларусь у якасці паўнапраўных грамадзян.

Цяжка ў чым-небудзь не пагадзіцца з Л. Бабчонак (за выключэннем асобных нюансаў накшталт наіўнага сцвярджэння, што «беларуская мова больш падыходзіць для складання вершаў і песень»), цяжка не ўспрыняць і не зразумець яе пачуцці і аргументы. І ўжо ж, вядома, яна мае абсалютную рацыю, лічачы, што Рэспубліка Беларусь павінна ўспомніць і паклапаціцца пра такіх, як яна сама і да яе падобныя па сваім лёсе.

Як паклапаціцца? Якія рэальныя захады прыняць?

Пра гэта павінны падумаць неадкладна і з усёй дзяржаўнай адказнасцю і Вярхоўны Савет, і ўрад рэспублікі.

Зрэшты, пачалі ўжо думаць, такая праца пачалася ўжо, лёд, як кажуць, крануўся. Маю на ўвазе тут перш за ўсё той факт, што ў кастрычніку мінулага года прыняты Закон «Аб грамадзянстве рэспублікі Беларусь». Закон гаворыць: «Грамадзянства Рэспублікі Беларусь — неад'емны атрыбут дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, які вызначае прыналежнасць асобы да дзяржавы, абумоўлівае сукупнасць яе правоў і абавязкаў **і іх абарону з боку Рэспублікі Беларусь** (падкрэслена мной. — **А. В.**)... Дзяржава абараняе правы і законныя інтарэсы грамадзян Рэспублікі Беларусь на сваёй тэрыторыі і за яе межамі». У пастанове Вярхоўнага Савета пра ўвядзенне ў дзеянне Закона вызначаны катэгорыі асоб, якія па розных прычынах (аб'ектыўных) выехалі за межы рэспублікі, але прызнаюцца пастаянна пражываючымі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Мяркую, што да адной з такіх катэгорый трэба аднесці і выпускнікоў Полацкага педвучылішча (як і выпускнікоў іншых вучылішчаў і інстытутаў), накіраваных па так званым размеркаванні («высланых», як піша Л. Бабчонак) на працу за межы рэспублікі.

Гэтымі днямі адбылося пасяджэнне Камісіі Прэзідыума Вярхоўнага Савета па пытаннях грамадзянства, на якім было разгледжана Палажэнне аб парадку разгляду хадайніцтваў па пытаннях грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Усё гэта, безумоўна, добра. Пра ўсё гэта я паведаміў у сваім адказе Леаноры Пятроўне. Але...

У дадатак і для ажыццяўлення гэтых юрыдычна-прававых рашэнняў патрэбны і іншыя, на ўрадавым узроўні, захады — як прынцыповага, так і практычнага плана. Патрэбны адпаведныя, належным чынам распрацаваныя праграмы. І тут мае рацыю доктар геаграфічных навук прафесар Спартак Польскі, які ў сваім цікавым, грунтоўным артыкуле «Брэйкдаўн» па-беларуску?», змешчаным у «ЛіМе» за 24 студзеня, выказвае шкадаванне, што ў нас на сённяшні дзень няма больш-менш здавальняючага абгрунтавання самога паняцця «нацыянальнае адраджэнне» і ў сувязі з гэтым няма канцэпцыі дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі. (Праўда, мне тут хацелася б усё ж прыгадаць грунтоўныя даследаванні гісторыка Л. М. Лыча, надрукаваныя ў тым жа «ЛіМе».) С. Польскі лічыць, што «было б разумна стварыць пры Савеце Міністраў рэспублікі Камітэт па нацыянальных праблемах ці хоць інстытут Упаўнаважаных па справах нацыянальнасцей». Згодны з гэтай прапановай. Тым больш гатовы падтрымаць яе, што яшчэ на першай сесіі Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання (май 1990 года), падчас фарміравання ўрада, я ставіў пытанне аб стварэнні пасады міністра па справах нацыі (дарэчы, і аб увядзенні пасады... міністра па вайсковых справах). Праўда, размова ідзе, здаецца, аб розных крыху рэчах. «Па справах нацыянальнасцей» і «па справах нацыі» — гэта не адно і тое ж, відаць.

Што я маю на ўвазе пад апошнім? Каардынацыйна-кіруючы дзяржаўны орган (Міністэрства, Камітэт) з адпаведнымі аддзеламі (дэпартаментамі), у кампетэнцыю якіх уваходзілі б справы беларускай дыяспары, дэмаграфічныя і міграцыйныя працэсы, планаванне сям'і (матэрыяльная і маральная падтрымка сям'і маладой), ахова генафонду і іншыя аспекты выжывання і развіцця нацыі. Думаю, што толькі пры ўмове існавання такога ведамства, а калі шырэй — толькі пры ўмове такой, адпаведным чынам пастаўленай дзяржаўнай палітыкі нашы добрыя пажаданні і намеры будуць атрымоўваць практычнае вымярэнне, рэальна ўвасабляцца ў жыцці.

Між тым, пры бліжэйшым і больш глыбокім разглядзе праблемы высвятляецца, што нам трэба пазбаўляцца ад некаторых ілюзій і больш цвяроза глядзець на рэчы, што на шляху нашага нацыянальна-дзяржаўнага станаўлення нас чакае шмат цяжкасцей і перашкод, ухабаў і камянёў (у тым ліку і падводных). Менавіта на гэта нам паказваюць, пра гэта нам пераканаўча гавораць аўтары такіх нядаўніх публікацый на старонках «ЛіМа», як «Гісторыя Беларусі ў кантэксце інфармацыйнай тэорыі этнасу», «Усебеларускі ўздым яшчэ наперадзе», «Трэба паверыць у свой нацыянальны геній, у здольнасць пастаяць за сябе» і «Пошукі аптымістычнага зыходу» — гутаркі маладога супрацоўніка газеты Юрася Залоскі адпаведна з этнолагам Паўлам Церашковічам і гісторыкам Аляксеем Каўкай, з Нілам Гілевічам і Васілём Быкавым... Сапраўды, работы непачаты край! І работы, якая вымагае сёння і будзе вымагаць заўтра сілы волі і духу, цярпення і дзяржаўнай мудрасці.

І ў заключэнне я хацеў бы звярнуць увагу на адзін прынцыпова важны момант, які мае пэўнае дачыненне да прадмета майго каментарыя і які натхняе на працу, абнадзейвае. Знаёмячыся з лістом Леаноры Бабчонак, мы не маглі не адчуць яго ўнутраны змест, яго асноўны духоўны стрыжань, які сведчыць: пры ўсім тым, пры ўсіх выпрабаваннях і нягодах у глыбіні душы яго аўтара захавалася і жыве нацыянальна-патрыятычнае пачуццё, пачуццё Радзімы, Бацькаўшчыны. Гэта, у сваю чаргу, лішні раз сведчыць, што «самастаянне чалавека, зарука велічы яго» неаддзельныя ад самастойнасці, самабытнасці нацыянальнай, што меў рацыю вялікі Дастаеўскі, гаворачы: «...Без гэтай веры ў сябе не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі. Выходзіць, што не трэба замахвацца на самастойнасць жыцця нацыянальнага, а, наадварот, усімі сіламі пашыраць гэтае жыццё і як мага больш стаяць за яго самабытнасць».

Замахваліся. Забівалі. Разбуралі. Час разбураць, і час будаваць, час збіраць камяні...

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ,**
**народны дэпутат, каардынатар фракцыі БСДГ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.**

# Мітынговая аповесць

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

(Працяг. Пачатак у №№ 25—27).

— А можа даць ім трохі перцу, што мы стаім, як святыя? — пачаў гарачыцца Слабкоў. — З нас жа потым будуць смяяцца, што не пасмелі ўзняць руку ў абарону бязвінных. Га, хлопцы?

— Яны гэтага і чакаюць — каб мы пачалі адбівацца. Тады яны ўжывуць усе свае сродкі на ўсю магутнасць, — разважліва загаварыў Стасевіч. — БНФ выступае супроць ужывання сілы ў любых умовах.

— Пацыфізм гэта называецца... Мірнымі сродкамі з імі не справішся, калі ў іх газы і дубінкі, а ў нас толькі неабароненыя галовы. Нешта трэба прыдумаць больш радыкальнае...

Дзіўна, але цэнтр кола, а ў ім Стэльмах, уцалеў, абкружаны пераважна хлопцамі, хутчэй за ўсё студэнтамі і маладымі рабочымі з заводаў. Цяпер яны шумелі, спрачаліся, нешта даказвалі Стэльмаху, ён слухаў іх, коратка адказваў, але быў нейкі прыгнечаны, як хворы. Відаць, на яго ўвесь гэты дзікі малюнак збівання безабаронных людзей навеяў невясёлыя думкі, ашаламіў, мо нават шакіраваў, як і большасць з тых, што тут сёння стаялі, і тых, што ўжо былі далёка адгэтуль, гнаныя міліцэйскімі палкамі. Цяпер было ўжо цёмна і нельга было бачыць і сказаць, чым скончыліся ўцёкі і пагоня — магчыма, не толькі збіваннем, але і арыштамі, што было зусім верагодна, бо аўтафургоны прыехалі сюды не для прагулянкі.

Стэльмах, перш чым аб'явіць збор, сказаў да ўсіх, што ўцалеў і быў побач з імі:

— Шаноўная грамада! На вашых вачах тварылася беззаконне. Яно творыцца ўжо семдзесят гадоў. І пакуль кампартыя будзе намі кіраваць, будзе твaрыцца тое ж самае. Але мы павінны стойка вынесці ўсе гэтыя здзекі і ісці сваім шляхам — да самастойнасці, да суверэнітэту. Інакш мы не станем паўнапраўнаю нацыяй, народам. Дарэчы, сённяшні дзень паказаў, што з насельніцтва мы ператварыліся ў нацыю, якая ўсведамляе сваю сілу і ведае, што ёй трэба... Мы яшчэ не маем перад сабою ўсяго малюнку сённяшняга дня, заўтра мы будзем ведаць, якія маштабы мела гэтае пабоішча, магчыма, што там, ля могілак, было тое ж самае, а мо і горшае...

Яны ўсе паволі пайшлі да дарогі, ціха перамаўляючыся між сабою, за імі і перад імі ішло іх парадзелае двойчы за гэты дзень войска. Іх разбілі ці яны перамаглі? Вось дзе пытанне! Разагналі, раскалолі на дзве паловы, але ж вось яны, штаб, цэнтр уцалеў, не арыштаваны, яны ідуць і адчуваюць сябе пераможцамі...

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАТАСТРОФА стала катастрофай для ўсіх беларусаў. Але, як ні дзіўна, калі яна здарылася, тады пра яе менш за ўсё хацелі гаварыць. Ну, здарылася няшчасце — дык ужо трэба крычаць і плакаць на ўвесь свет? Ці мы не пераносілі мо і не меншыя катастрофы, і нічога, жывём, не плачам, не ламентуем.

Цяпер кажуць, што тады не ведалі маштабаў, не ведалі глыбіні прорвы, у якую каціліся. Усё ведалі, як заўсёды, але ведалі для сябе, а для народа кінулі крошкі, каб супакоіць. Так, у эпіцэнтры небяспечна, таму адсялілі, перасялілі — і ўсё ў парадку, можна жыць далей. А што пошасць распаўзалася па ўсёй рэспубліцы, што хмары рассейвалі попел Чарнобыля па ўсёй тэрыторыі рэспублікі — пра гэта маўчалі. Навошта турбаваць людзей? Хай жывуць спакойна, хай працуюць.

Было відаць простым вокам, што вярхі хочуць знарок схаваць, зменшыць маштабы катастрофы, каб не мець лішніх клопатаў, не выкідаць апошніх грошай з небагатага бюджэту краіны на адсяленне, на будаўніцтва, на тэхніку і ўсякія іншыя расходы.

Быў і маральны фактар: пачалася перабудова, патрэбен пафас, патрэбен уздым, а тут гэтая катастрофа! Як яна недарэчы стала на дарозе перабудовы! Проста як знарок, каб усё прынізіць, спляжыць усе добрыя пачынанні.

І начальства гераічна рабіла ўсё, каб крык аб ратунку і дапамозе не падымаўся высока, а асядаў разам з чарнобыльскім пылам на тыя самыя палеткі і лясы, на тых самых людзей, якія прасілі дапамогі і ратунку.

Але былі людзі і грамадскія сілы, якія пачулі гэты голас і паспрабавалі ўзмацніць яго, каб ён быў чуцён не толькі ў рэспубліцы і ў Саюзе, але і далёка па свеце.

У адзін з вясенніх дзён БНФ арганізаваў «Чарнобыльскі шлях» — маніфестацыю па вуліцах горада і мітынг на плошчы Леніна, перад Домам ўраду, каб нагадаць сваім кіраўнікам, што абяцаныя імі рашэнні па ліквідацыі бяды не выконваюцца, што па-ранейшаму людзей кормяць абяцанкамі і супакойваюць, а сабраныя сродкі на дапамогу ідуць невядома куды.

Адным словам, шмат набралася пытанняў да ўрада, на якія людзі хацелі б пачуць адказы. Хоць усе ведалі, што ад ураду невядома, ці хто там будзе — няма чаго ім сказаць, няма чым апраўдацца, таму лепш маўчаць...

Але людзі сабраліся і ідуць, хоць на вуліцы пахмурна, вецер, ідзе невялікі дождж ык.

Міхась Парэпка дагнаў «Чарнобыльскі шлях» ля «дзяржаўнага цырку», на вуліцы Янкі Купалы — выйшаў з тралейбуса і далучыўся да доўгай калоны, якая з плакатамі, транспарантамі і сцягамі «Пагоні» ішла па праспекце, узнімаючыся пад горку.

І паступова знаёмае пачуццё еднасці з натоўпам паволі пачало разлівацца ў яго свядомасці, бадзёрыць і надаваць сілы: нас шмат, нас не запалохаеш, мы будзем дабівацца сваіх правоў, якія нам толькі абяцалі, але ніколі не давалі. Хопіць карміць абяцанкамі...

Нечакана ўбачыў знаёмую і ўзрадаваўся — не сустракаў яе некалькі гадоў! Гэта была Рагнеда Ляшковіч, з якою ён некалі, шмат гадоў назад, вучыўся на адным курсе, а потым яна знікла. Тады Парэпка добра нават не ведаў, чаго ці чаму яе выключылі з інстытута, а толькі праз колькі часу даведаўся падрабязнасці ад яе самой, калі ўжо можна было гаварыць пра такія рэчы. Яе выключылі з-за бацькі, які жыў недзе на Захадзе, у Англіі ці ЗША, быў актывістам беларускай эміграцыі. Аднак ён ужо не меў дачынення да ранейшай сям'і, ён кінуў жонку і дачку яшчэ раней, чым апынуцца ў эміграцыі. Аднак жа... дачка папацілася з-за бацькі... Яна пайшла працаваць, потым, праз нейкі час, усё ж скончыла інстытут і працавала настаўніцай. Дарэчы, яшчэ студэнткай яна пісала вершы, ёй прарочылі вялікую будучыню, ды жыццё павярнулася так, што было не да вершаў...

— Вось не думаў, што цябе сустрэну! — усклікнуў Парэпка, як толькі параўнаўся з ёю.

Яна была ў светлым паліто, пад парасонам, нейкая трохі распаўнелая ў параўнанні з тым, якою ён бачыў яе раней, пастарэлая, але яшчэ прыемная з твару жанчына. Асабліва яе маладзіла ўсмешка.

— А я цябе! — у тон яму адказала Рагнеда. — І ты таксама ходзіш на такія... мерапрыемствы?

— Не здзіўляйся, я хаджу, — адказаў Парэпка сур'ёзна. — Напрыклад, быў на «Дзядах». Ты была?

— Не, не давялося. І потым вельмі шкадавала. Цяпер ужо нічога не прапускаю, хоць і часу няма. — Яна глянула ўбок і паказала галавою на плакат. — Прачытаў? Лепш не прыдумаеш: «Хай жыве КПСС на Чарнобыльскай АЭС!»

Парэпка глядзеў на чорны транспарант, на якім белымі вялікімі літарамі быў напісаны новы афарызм і міжволі ўсміхаўся: такой трапнасці слова можна было пазайздросціць! Але ж і смеласці — таксама. Ёсць смелыя людзі, яшчэ не перавяліся! І гэта выдатна!

— І моцна, і смела сказана. Праўда?

— У стылі гратэска. Не прыдрацца па форме. Мо хіба да зместу — некаторыя знойдуць абразу. Але з песні слова не выкінеш...

— А што? Адзін жа наш вучоны карыфей сказаў, што ён гатоў паставіць АЭС на Краснай плошчы, і яна будзе працаваць, як гадзіннік. Вось хай бы паставіў — што б ён цяпер заспяваў?

— Казаць яны майстры, а вось рабіць— дык рукі кароткія.

— Як рукі, але галовы... Слаба вараць. У іх увесь розум пайшоў на ідэйнасць — уся пара выйшла ў свісток.

Так яны ішлі па праспекце, шмат хто далучаўся да іх шэсця, шмат стаялі, пазіралі, чыталі лозунгі і плакаты, транспаранты — адны ўсміхаліся, другія былі сур'ёзныя — невядома, асуджалі ці спачувалі. Праходзілі міма КДБ, пампезнага, велічнага будынку на цэлы квартал, пазіралі ў вокны. Адтуль, праз рассунутыя фіранкі, таксама сям-там пазіралі вайсковыя людзі ў пагонах, з кароткімі прычоскамі, сям-там відны былі і цывільныя.

— Памятаеш, Рагнеда, як мы сюды толькі прыехалі вучыцца? Мінск яшчэ ляжаў у руінах, а гэты гмах, «Жоўты дом», ужо канчалі, аштукоўвалі гранітам, даводзілі да ладу. Самы патрэбны дом у Мінску, га? Без яго мы не пражылі б і аднаго дня?

— Не гавары мне пра гэты «Жоўты дом». Калі мне даводзіцца ісці каля яго, у мяне падкошваюцца ногі і цямнее ў вачах. І самі сабой коцяцца слёзы. Хто тут пабыў, той ніколі не забудзе ганьбы і прыніжэння, якія тут перажыў. Усё лепшае ў чалавеку тут тапталі і аплёўвалі. Асабліва нацыянальнае, святое, роднае. Проста намякалі: адрачэшся ад свайго — будзеш вольная, шчаслівая, усё будзеш мець... Былі і такія, што спакушаліся — і потым жылі, «як людзі». А хіба як людзі? Як нелюдзі — так трэба гаварыць, бо, прадаўшы душу, чалавек ужо не чалавек, а толькі яго цень, падабенства... Але хопіць пра гэта... Як ты жывеш, Міхась?

— Жыву звычайна. Усяго хапае... І ўсяго не хапае. — Ён засмяяўся са свайго каламбура. — Але радуе тое, што можна сказаць праўду ў вочы самаму высокаму хаму — і не баяцца, што заўтра цябе возьмуць у той «Жоўты дом». А калі праўда будзе ў пашане, то ўсё павінна ісці да дабра.

— Калі праўда і сумленне, калі не будзе ранейшай хлусні і крыўды — тады перабудова пераможа, — развівала думку Рагнеда. —Ведаеш, ужо думалася, што мы і памром у цемры няпраўды і несправядлівасці. Ужо, здавалася, і задыхнёмся. Ажно тут знайшоўся смелы чалавек, кінуў выклік нашаму хамству, нашай адсталасці. Не ведаю, як хто, а я лічу гэта найвялікшым подзвігам у гісторыі ўсходніх славян. Нічога падобнага ніколі на гэтай зямлі не было. Было вялікае закабаленне, а каб вызваленне — такога не было.

— А мо яшчэ рана так казаць? — спытаўся ў яе Парэпка.

— Нават калі б больш нічога пазітыўнага не адбылося, ужо можна смела сказаць, што ён ступіў у бяссмерце. Яго імя будзе асвечана, вось пабачыш.

(Заканчэнне будзе).

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# «Афганская амністыя»: няхай у Тэрмезе падымуць шлагбаум...

**Нашы войскі выйшлі з Афганістана. Але... працягваюць вайну. Толькі цяпер агонь вядзецца не з акопаў, а з мінулага: узрываюцца савецкія міны, закладзеныя ў зямлю Афганістана ў 1979—89 гадах. Гэта зброя няўмольная. Нашпігаваная трацілам скрынка не адрознівае ўзросту і полу сваіх ахвяр. Смяротны крок робяць жанчыны, дзеці, старыя. Яны гінуць, а не нюхаўшыя пораху тэарэтыкі ўсяго свету ламаюць галовы над праблемай савецкіх мінных палёў у Афганістане.**

**Відаць, цяпер праблема можа зрушыцца з мёртвага пункту менавіта таму, што за яе вырашэнне збіраюцца ўзяцца... практыкі. Мой субяседнік — капітан запасу Яўген СУЛЫГА. Афганскі стаж — два гады. Палавіну гэтага тэрміну камандаваў сапёрным узводам, яшчэ год ваяваў у спецназе. Ён жа ініцыятар праекта «АФГАНСКАЯ АМНІСТЫЯ».**

**— Жэня, як узнікла ідэя праекта?**

— Калі мы вярталіся з Афгана, то гаварылі адзін аднаму: «Пакуль! Сустрэнемся на Кабульскім працэсе». Такі звычайны жарт быў. Гэта значыць, ужо тады мы разумелі, што гэта вайна злачынная. Не, мы не злачынцы, — але вольныя ці нявольныя ўдзельнікі злачынства. Наша Радзіма дапамагла незаконнаму ўраду, гэта цяпер ні для кога не сакрэт. І яна зрабіла гэта нашымі рукамі. Таму, калі я даведаўся, што ААН аб'явіла аб распрацоўцы праграмы па размініраванню Афганістана, то адразу падумалася: чаму б гэта не зрабіць тым, хто гэтыя міны ставіў? Тут ёсць яшчэ адзін момант: для многіх з нас Афганістан — гэта другая радзіма, як бы дзіўна гэта ні гучала. Мы нарадзіліся там у другі раз, гэта значыць, сталі там іншымі людзьмі. Ды і адносіны былі іншымі... Ты заўважыў, што ветэраны-«афганцы» называюць адзін аднаго па-афганску — «бача»? Дык вось, мне здаецца, што размініраванне павінны правесці мы — гэта будзе свайго роду пакаянне... Ці прымірэнне, не ведаю. Ведаю, што там было вельмі шмат трупаў. І тыя, хто «адбарабаніў» у Афгане два гады, ды і наогул усе разумныя «афганцы» цяпер выдатна ўсведамляюць, што паўтара мільёна загінуўшых і пяць мільёнаў бежанцаў на гэтай зямлі — зусім не без нашага ўдзелу.

**— Калі шчыра, то неяк нязвыкла чуць такія словы з вуснаў «афганца»...**

— Ды кінь ты, проста пара перастаць быць дурнямі. Нас і так шмат гадоў трымалі за дурняў, і мы тады не разумелі, што нашы ворагі на маскоўскай Старой плошчы, а не ў гарах Афгана. А ў гарах... Мы проста чэсна ваявалі — і мы, і яны. І мы, і яны — ахвяры палітыкі. Праўда, яны ваявалі на сваёй зямлі. Таму я лічу, напрыклад, Ахмад Шаха Масуда з Пандшэрскай цясніны больш прыстойным, чым нашых «баявых» генералаў, якія прыязджалі ў Афганістан набіць свае кішэні, і ім не было ніякай справы да тых, хто сапраўды ваяваў. Хоць, вядома, так думаюць не ўсе «афганцы», і, магчыма, хто-небудзь мяне не падтрымае.

**— А хто падтрымлівае?**

— Праект «Афганская амністыя» падтрымаў Савет «афганцаў» Фрунзенскага раёна Мінска, савет сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі ў Афганістане, рэспубліканская газета «Знамя юности». Гэта пакуль што. Зараз мы склікаем аднадумцаў — у асноўным, сапёраў з АКСВА. Затым хочам звярнуцца ў ААН і прапанаваць свае паслугі.

**— І Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыме вашу прапанову?**

— Ну, гэта ж дыктуе здаровы сэнс. Па-першае, у абмен на нашых палонных афганскі бок цяпер патрабуе (гэта адна з умоў) схемы мінных палёў. Але ўсякі камандзір сапёраў, як і персанаж Брэдберы з «451° па Фарэнгейту», заўсёды меркаваў, што гэтыя схемы лепш за ўсё захоўваюцца ў яго галаве. Таму — хто лепш за мяне ведае размяшчэнне 37 кіламетраў мінных палёў, якія ўстанавіў мой узвод? Па-другое, ААН збіраецца паслаць на разміліраванне «блакітныя каскі». Гэта людзі, малазнаёмыя з савецкімі сістэмамі мін, з іх асаблівасцямі, з савецкай практыкай мініравання. А гэта пацягне шматлікія ахвяры ад выпадковых падрываў сярод «блакітных касак», бессэнсоўныя яшчэ і таму, што гэтыя людзі ва ўстаноўцы нашых мін ніколькі не вінаватыя. Па-трэцяе, ААН гатова патраціць на сваю праграму сотні мільёнаў долараў. З нашым удзелам такія затраты будуць не патрэбны. Ды і, калі на тое пайшло, самі мясцовыя жыхары, даведаўшыся аб мэце нашага прыезду ў Афганістан, стануць нас карміць. Хоць гэта другаснае. Галоўнае — няхай у Тэрмезе падымуць шлагбаум, а ў Афганістане мы самі зробім сваю работу.

**— Дапусцім, вы прыступілі да размініравання. Што больш небяспечна — здымаць ці ўстанаўліваць міны?**

— Скажам так: здымаць — не больш небяспечна. У асноўным, нашы міны ўстаноўлены на невыманне. Таму іх абясшкоджваюць не як у кіно, дзе абкопваюць і раскручваюць. Можна працаваць накладным зарадам, гэта значыць знішчаць на месцы. Можна выкарыстоўваць звычайную «кошку» з крукамі: закідваеш, цягнеш. Самае «страшнае», што можа адбыцца ў такім выпадку, — усяго толькі выбухам абарве трос «кошкі». Ёсць яшчэ спецыяльныя мінныя тралы, яны мацуюцца да танка. Ці проста так, без якіх-небудзь прыстасаванняў: ён едзе, міны рвуцца пад гусеніцамі. Супрацьпяхотныя, якія ў асноўным выкарыстоўваліся, асаблівай шкоды танку не прыносяць. Толькі механік у «труме» глохне ад частых выбухаў.

**— Могуць сустрэцца міны замежнай вытворчасці...**

— Сапёры з афганскім вопытам, можна сказаць, універсалы. І таму могуць абясшкодзіць практычна любую сістэму.

**— Жэня, у якой стадыі знаходзіцца праект?**

— Можна сказаць, што стадыя распрацоўкі заканчваецца. Цяпер патрэбна толькі жаданне былых сапёраў вярнуцца ў гэтую краіну з гуманнай мэтай. Зараз вядуцца перагаворы з беларускім Міністэрствам замежных спраў. Думаю, там ацэняць не толькі гуманістычную, але і палітычную каштоўнасць «Афганскай амністыі». Бо ва ўсім былым Саюзе яшчэ ніхто не прапаноўваў нічога падобнага! Гэта ж унікальны шанц для беларускай дзяржавы заявіць аб сабе ў сусветным маштабе. Міралюбівы крок міралюбівай краіны, — што можа быць лепш для ўмацавання міжнароднага аўтарытэту? І тут не трэба аглядвацца на суседзяў: у суверэннай Беларусі павінна быць суверэнная знешняя палітыка. І суверэнныя адносіны да Афганістана. Дарэчы, цяпер лічыцца за лепшае наладжваць сувязі з «непрымірымымі», чым з Наджыбулой. Усё роўна, рана ці позна, той жа Ахмад Шах Масуд будзе ў Кабуле. І чым хутчэй гэта адбудзецца, тым хутчэй усталюецца стабільнасць у краіне. Тым меншая верагоднасць, што групам «Афганскай амністыі» будуць страляць у спіну.

**— Дапусцім, праект «Афганскай амністыі» на нейкім этапе «забалаціравалі»...**

— Што можна арганізаваць у такім выпадку? Войскі ААН пры ўсім жаданні не зробяць тое, што можам зрабіць мы. А цяпер зразумелы любому беларусу прыклад: вайна на тэрыторыі Беларусі працягвалася чатыры гады. Мінула 45 гадоў. Аднак на нямецкіх мінах людзі падрываюцца дагэтуль. Мы мініравалі Афганістан дзесяць гадоў. Прымітыўная арыфметыка паказвае, што Афганістану гэта «рэха вайны» будзе адгукацца мінімум сто гадоў. Сто гадоў! Памнож гэта на ўдасканаленую з часоў другой сусветнай тэхналогію мініравання, маскіроўкі, новыя тыпы асабліва небяспечных мін... Мы павінны туды вярнуцца.

**— Вашы бліжэйшыя дзеянні?**

— Думаем, у рамках праекта (магчыма, гэтым летам) арганізаваць паездку групы з СНД у Квету і Пешавар, у лагеры афганскіх бежанцаў. Толькі гэта будзе не звычайная група дапытлівых «экспертаў» з вялікімі сумкамі для «атаварвання». Няхай у групе будзе маці загінуўшага, удава «афганца», дзіця-сірата, «афганец»-інвалід. Няхай яны сустрэнуцца там з такой жа маці, удавой, асірацелым дзіцем. Трэба, каб простыя людзі зразумелі, што ў нас аднолькавая і агульная бяда. Мы ўсе — ахвяры.

А тыя, хто жадае прыняць удзел у праекце, могуць звяртацца ў рэдакцыю газеты «Знамя юности» па тэлефоне (0172) 32-13-34, ці пісаць на адрас: **220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79. «Знамя юности»** (з паметкай «Афганская амністыя»). Укажыце месца і час службы ў Афганістане.

Раман РУДЗЬ.
(БелаПАН).

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

**Праект Яўгена Сулыгі «Афганская амністыя» несумненна заслугоўвае глыбокага абмеркавання і павінен выклікаць адпаведны міжнародны рэзананс. Сапраўды, аўтарытэт Беларусі як міралюбівай краіны пасля ажыццяўлення «Афганскай амністыі» значна павысіцца. Але хацелася б засяродзіць увагу арганізатараў міратворчага праекта на некаторых акалічнасцях, што, спадзяёмся, дапаможа ім працаваць больш мэтанакіравана.**

**Па-першае (і самае галоўнае) перад вывадам савецкіх войск з Рэспублікі Афганістан у 1988—89 гадах уся ваенная маёмасць была перададзена афганскай арміі. Менавіта за некалькі дзён да свайго вываду камандаванне кожнай савецкай ваеннай часці перадало афганскаму боку карту-схему мінных палёў, закладзеных сапёрамі. Гэтыя карты-схемы рабіліся ў трох экземплярах, адзін з якіх адпраўляўся ў Маскву, другі — у Кабул, трэці заставаўся ў камандавання афганскай часці, прыняўшай маёмасць савецкага гарнізона. Такім чынам, кіраўніцтва афганскай арміі і зараз дасканала ведае дыслакацыю савецкіх мінных палёў (і пры жаданні магло б даўно абясшкодзіць іх). Іншая справа з мінамі, пастаўленымі не спецыяльнымі сапёрнымі падраздзяленнямі, а штатнымі сапёрамі разведбатаў, спецназа і дэсантных часцей. Тут, сапраўды, асабліва ў першыя гады вайны, мінныя палі «трымаліся» ў галовах камандзіраў, а не на картах. Гэта якраз і былі самыя небяспечныя міны і міны-пасткі. І знаходзяцца яны часцей за ўсё ў месцах праходжання караванаў «непрымірымых».**

**Па-другое, трэба ўлічваць тэрмін даўнасці. Сапёры-афганцы павінны добра ведаць, як уплываюць на захоўванне мін прыродныя фактары (эрозія глебы, вецер, каменне і г. д.). А колькі падрываецца на іх шакалаў, сабак і іншых жывёлін, птушак. Адны мінныя палі поўнасцю, або часткова самаліквідаваліся, другія нават з картай не знайсці.**

**Па-трэцяе. «Афганская амністыя» прапануе мець справу лепш з «непрымірымымі», чым з урадам Наджыбулы. Але трэба ўлічваць, колькі розных мін мы пакінулі афганскай арміі на сваіх складах, навучыўшы імі карыстацца. «Сарбозы» (афганскія салдаты) перыядычна аднаўлялі савецкія старыя мінныя палі і ставілі шмат сваіх, месца знаходжання якіх невядома беларускім арганізатарам праекта. Пры спробе «пакінуць у баку» Наджыбулу, мы рызыкуем не атрымаць карту дыслакацыі цяперашніх афганскіх мінных палёў (якія ў большасці выпадкаў знаходзяцца літаральна разам з былымі нашымі). Тады яны аднолькава небяспечныя як для «блакітных касак», так і для былых сапёраў-«афганцаў». Таму відавочна, што ААН пры распрацоўцы праграмы па размініраванню Афганістана будзе апірацца на звесткі, прадстаўленыя «баявымі генераламі» з нашага Міністэрства абароны і кіраўніцтвам афганскіх узброеных сіл. Дарэчы, будзем шчырымі да канца — без ахвяр у гэтай справе хутчэй за ўсё не абысціся. Нельга глядзець на размініраванне (нават знаёмых мінных палёў) праз ружовыя акуляры.**

**Трэба думаць, былыя воіны-«афганцы» (у тым ліку і сапёры) успрымуць ідэю «Афганскай амністыі» неадназначна. Таму яна патрабуе неабходных далейшых распрацовак у галіне практычных мер (падрыхтоўка, фінансаванне, умовы знаходжання ў РА, узаемаадносіны з кіраўніцтвам РА, кантроль з боку міжнародных арганізацый і г.д.).**

Станіслаў СУЛКОЎСКІ,
кар. «Звязды»,
былы воін-«афганец».



## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 12 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Вольны табун». Кінанарыс.
**9.00.** Прыродазнаўства. 3-ці клас.
**9.20.** Ліра.
**11.30.** «Кін-дза-дза!». Мастацкі фільм.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Для дзяцей. «Тое-сёе з паштовай сумкі».
**17.15.** Экран дзіцячага фільма. «Кукурыгу», «Дарога дамоў».
**18.00.** Дак. фільмы «Два словы ў пісьме», «Галасы».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.35.** Наш каментарый. «Прадбачанне і рэальнасць».
**19.40.** Аб партыях—без дыпламатыі. Шматпартыйнасць: знаходкі і страты.
**20.25.** Калыханка.
**21.05.** «Забіць дракона». Мастацкі фільм.
**23.05.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** Мультфільмы «Скарб», «Крот і жавальная гумка», «Кот у ботах».
**8.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная ЗША — зборная Германіі.
**9.30.** Разам з чэмпіёнамі.
**9.45.** Фільм—дзецям. «Як Хашым быў вялікім».
**10.50.** Народныя мелодыі.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Погляд з правінцыі». Зямля варонежская.
**12.10.** Паралельныя сусветы.
**12.55.** Як дабіцца поспеху.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Сёння і тады.
**14.50.** «У бары брусніцы». Мастацкі фільм. 1-я серыя «Незамужняя жонка».
**16.10.** «Гісторыя без слоў». Мультфільм.
**16.15.** Зімнія Алімпійскія гульні. Санны спорт.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Рэформа: тыдзень за тыднем.
**18.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Фігурнае катанне.
**18.55.** Мастацкі фільм «Дайце мне спяваць».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Зімнія алімпійскія гульні. Канькабежны спорт.
**21.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная СНД — зборная Чэха-Славакіі. У перапынку — Навіны.
**23.45.** Музычны прагноз.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Нямецкая мова. 1-ы год навучання.
**7.50.** Вольны час. «Увага, здымаю!»
**8.05.** Нямецкая мова. 2-гі год навучання.
**8.35.** «Карэту мне, карэту!». Творчы партрэт В. Саломіна.
**9.35.** Дзённік Алімпіяды.
**10.15.** Расійскі фермер: погляд у будучыню.
**11.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Біятлон.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Восень жыцця.
**15.20.** Зімнія алімпійскія гульні. Дваяборства.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Горныя лыжы.
**18.00.** Грані.
**18.40.** Азы кар'еры.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
**20.00.** Дзённік Алімпіяды.
**20.30.** Тварам да Расіі.
**20.50.** Мультфільм.
**21.00.** «Так, прэзідэнт. Не, прэзідэнт».
**22.20.** «Пецярбургскі міф». Перадача 1-я.
**23.00.** «Біг-бенд Джэфарда Холмса».

### 13 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Дарахан». Кінанарыс.
**9.00.** «Забіць дракона». Мастацкі фільм.
**11.00.** «Душы маёй царыцы». Фільм-канцэрт.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Беларуская літаратура. 7-ы клас.
**17.05.** «На парог мой села казка», «Хітрыкі Рамзеса», «Няўлоўны Фунцік», «Нехачуха». Мультфільмы.
**17.45.** «Рамэо і Юлія». Фрагменты з балета на музыку Г. Берліёза». Фільм-канцэрт.
**18.00.** Дак. фільмы «Гарадзецкія майстры», «Каб горан не згас».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.35.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.40.** Факты і меркаванні. «Незалежнасць. Нейтралітэт. Армія».
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** Тыдзень беларускага ўрада.
**21.00.** Крок. «Пасля афганскай вайны».
**23.20.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** «Дзядуля Агу». Мультфільм.
**7.55.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная СНД—зборная Чэха-Славакіі.
**9.15.** «Дайце мне спяваць». Мастацкі фільм.
**10.05.** Дзіцячы музычны клуб.
**10.50.** Зімнія алімпійскія гульні. Лыжны спорт. 10 км. Мужчыны.
**12.30.** Чалавек і закон.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Спявае В. Варанец.
**14.50.** «У бары брусніцы». 2-я серыя «Ягоравы».
**16.15.** «Ну, пачакай!» Мультфільм.
**16.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Да Міжнароднага тэлемарафона «Салдаты XX стагоддзя супраць вайны».
**17.30.** Зімнія алімпійскія гульні. Лыжны спорт.
**18.25.** Мастацкі фільм «Там, дзе неба ляжыць на зямлі».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Зімнія алімпійскія гульні. Канькабежны спорт.
**21.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Матч папярэдняга турніру. У перапынках — Навіны; «Крымінфарм» паведамляе.
**23.45—0.55.** Сусветны музычны прыз Монтэ-Карла.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Іспанская мова. 1-ы год навучання.
**7.50.** Вольны час. «Дамашні клуб».
**8.05.** Іспанская мова. 2-гі год навучання.
**8.35.** Дымкаўская цацка.
**9.00.** Сялянскае падвор'е.
**9.25.** Дзённік Алімпіяды.
**10.00.** Фальклорны ансамбль «Чумакі» (Кіеў).
**10.20.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**11.20.** «Так, прэзідэнт. Не, прэзідэнт».
**12.15.** Адкрыты горад.
**15.00.** Пятае кола.
**16.00.** У імя сына.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Слалам. Жанчыны.
**17.55.** Парламенцкі веснік Расіі.
**18.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Фрыстайл. Могул.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**19.40.** Чытайце Шаламава.
**20.00.** На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
**20.30.** Дзённік Алімпіяды.
**21.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Фігурнае катанне.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Фігурнае катанне. Працяг.

## РАДЫЁ

### 13 лютага

9.15—«Мова — душа народа». Радыёрасказ. Перадача 2-я, заключная. 10.15 — для дзяцей. А. Грачанікаў. «Чорны замак». Радыёпастаноўка паводле вершаванай казкі. 10.51 — А. Зэкаў. «У зая — імяніны». Вершы. 11.20— канцэрт ансамбля «Песняры». 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Для веруючых і няверуючых». 14.30 — «У чыіх інтарэсах?». Прафсаюзныя актывісты аб праблемах прыватызацыі. 14.50 — «Эканамічны дзённік». 15.15 — «Гучаць песні У. Высоцкага і Б. Акуджавы». Канцэрт. 16.05 — «Сябрына». Радыёклуб для падлеткаў. 16.35 — «Першыя сцяжынкі». 17.00 — сімфанічны канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў. 17.40 — «Ад нашага ўласнага карэспандэнта». 18.00 — перадачы абласнога радыё. 18.40 — «З народных крыніц». Канцэрт беларускай музыкі. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45— вячэрняя казка. 20.00 — «Дзень нашага жыцця». 20.25 — «Паэзія пейзажу». Да 120-годдзя з дня нараджэння народнага мастака рэспублікі В. Бялыніцкага-Бірулі. 21.00 — «Ад шчырага сэрца». Музычная праграма па пісьмах радыёслухачоў. 22.00 — «Служба дні і ночы». 22.30 — канцэрт. 23.10— «Начны канал».

# Урэтрыт

АПТЭЧКА
НЕАДКЛАДНАЯ ДАЎРАЧЭБНАЯ ДАПАМОГА

Развіваецца ў любым узросце ў людзей абодвух полаў. У хлопчыкаў і дзяўчынак узнікае рэдка. Аднак у юнацкім узросце, асабліва калі яны становяцца сексуальна актыўнымі, захворванне ўрэтрытам рэзка ўзрастае і ў далейшым застаецца стабільным.

Часцей за ўсё ўрэтрыт выклікаецца бактэрыямі ці прасцейшымі, якія пранікаюць у сценку мочаспускальнага канала ў час палавога акта. Паражэнне ўрэтры бывае абумоўлена і неінфекцыйнымі фактарамі — раздражненнем хімічнымі рэчывамі, процізачаткавымі сродкамі, пастаянным траўміраваннем палавога члена (у веласіпедыстаў і коннікаў), парушэннем абмену рэчываў, працяглым знаходжаннем у мочаспускальным канале гумавых катэтараў.

**Прыкметы.** Хвароба, як правіла, працякае востра. Аднак нярэдка носіць вялы характар. Калі ў першым выпадку з'яўляюцца слізіста-гнойныя выдзяленні, рэзі ў час мочаспускання, сверб і смысленне ўздоўж палавога члена, дык у другім — толькі нязначныя выдзяленні раніцай ці невялікая жаўтаватая пляма на трусах. Пры ўскладненні ўрэтрыту інфекцыя распаўсюджваецца ў прастату, прыдаткі яечак, яечкі ці на шыйку мачавога пузыра. Узнікаюць імпатэнцыя, звужэнні мочаспускальнага канала, бясплоднасць.

**Аказанне дапамогі.** Захварэўшаму проціпаказаны алкаголь і вострыя стравы. Рэкамендуецца шмат піць. Неабходна выключыць палавыя кантакты. Трэба як мага раней паведаміць пра свой стан уролагу, бо вылечыць урэтрыт даволі складана, ды і поўнага вылячэння ніколі не бывае. Небяспечны не сам урэтрыт, а яго шматлікія ўскладненні (звужэнні мочаспускальнага канала, імпатэнцыя, бясплоднасць і інш.). Уролаг адразу ўстановіць прычыну хваробы, прыме самыя эфектыўныя меры для лячэння.

М. СЕВАСЦЬЯНАЎ,
кандыдат медыцынскіх навук.
г. Мінск.

Галоўны рэдактар
У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Людміла Рыжанкова, намеснік адказнага сакратара Віктар Краўчанка, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 30.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12